# БАЦЬКАЎШЧЫНА



ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAČKAUŠČYNA" („VATERLAND")

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл.; **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка летніцкай пошттай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna", Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE" | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE BELORUSSIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND"

№ 16 (551) — Нядзеля 16-га красавіка 1961 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 15


# Першы чалавек у касьмічным прасторы

Дзень 12-га красавіка сёлета запачаткаваў новую эпоху ў гісторыі людзкое думкі, якая паставіла першы канкрэтны крок у вапанаваньні чалавекам міжплянэтнага прастору. У гэты дзень збыліся лятуценьні многіх пакаленьняў у іхным імкненьні адарвацца чалавеку ад зямлі й паднявацца ў касьмічны прастор. Гэтага вялікага чыну даканаў савецкі маёр лётніцтва Юрка Гагарын, які ў спэцыяльна спрэпараванай ракеце «Восток» («Усход») адарваўся ад зямлі, на працягу ўсяго 89,1 мінуты акружыў усю зямную кулю й цэлым і непашкоджаным узноў вярнуўся на зямлю.

Маёр Гагарын паходзіць з Гжацкага раёну Смаленскае вобласьці, значыцца з этнаграфічнае тэрыторыі Беларусі, якая ня была ўлучаная ў БССР і знаходзіцца ў працэсе прысьпешанай русыфікацыі. Ня выключана тады, што першы пасажыр у сусьветны прастор паводля свайго паходжаньня зьяўляецца Беларусам, хоць і поўнасьцю зрусыфікаваным. Гэтая акалічнасьць паўтарала-б няшчысьленыя факты, калі сыны Беларусі, у сілу трагічных абставінаў гісторыі, павялічаюць славу чужых ім народаў. Але гэта толькі між іншым. Справа, аб якой маем гаварыць, заключаецца сяньня ня у гэтым.

Няма патрэба аспрэчваць факту, што чын, дакананы Гагарынам, зьяўляецца сам па сабе чынам дагэтуль бяспрыкладным. А ўся справа палёту чалавека ў касьмічны прастор, гэтым чынам упяршыню зрэалізаваная, зьяўляецца эпахіяльным дасягненьнем навукі й тэхнікі. На жаль, рэалізуючы гэты чын, Саветы мелі перад сабой ня толькі навуковыя мэты.

У галіне нутранай палітыкі кіраўнікоў Савецкага Саюзу хадзіла пра тое, каб гэтым чынам падмацаваць тэзу, што дыялектычны матарыялізм мае перавагу над усімі сьветапаглядамі. Таму ўсякія ўдачы камуністымі звычайна пераўвялічваюцца й аднымі імі прысабечваюцца, а ўсякія няўдачы тэндэнцыйна прамоўчваюцца. У галіне вонкавае політыкі ўзноў-жа савецкія ўладары выкарыстоўваюць падобныя дасягненьні дзеля забясьпечаньня сабе ўпрывілеяваных пазыцыяў у цэлым сьвеце й дзеля ўзмоцненьня перакананьня, што канчальная перамога астаецца за камунізмам. На прыняцьці, прыгатаваным 13 красавіка ў Крамлі Гагарыну, Хрушчоў із сьлязамі ў вачох заявіў: «Няма сяньня больш ніякай сілы, якая сьпіхнула-б нас з дарогі да перамогі камунізму. Таксама нішто ня зможа спыніць руху іншых народаў да перамогі камунізму».

Тымчасам заслугаў Савецкага Саюзу ў дакананым палёту чалавека ў касьмічны прастор нельга пераўвялічваць. Прэса вольнага сьвету ўжо на другі дзень пасьля савецкага дасягненьня аднагодна падчыркнула, што да гэтага дасягненьня спрычыніліся вучоныя многіх народаў і што было-б больш прыгожа для радасьці із зрэалізаваньня гэтага дасягненьня, калі-б Масква не намагалася яго выкарыстоўваць у сваім змаганьні з вольным сьветам. «Нью Ёрк Таймс» у сваім перадавічным артыкуле 13 красавіка вельмі правільна пісаў: «Дасягненьне савецкай ракетнай навукі не павінна зьяўляцца трыумфам аднае толькі нацыі. Гледзячы зь гістарычнае пэрспэктывы, першы палёт чалавека ў касьмічны прастор зьяўляецца трыумфам людзкога розуму й духа незалежна ад геаграфічных, палітычных і этнічных межаў. Палёт Гагарына зьяўляецца завяршэньнем доўгай гісторыі, на якую складаліся сотні гадоў і якую супольна тварылі дух многіх людзей многіх народаў.»

Тое, што якраз Саветам першым удалося паслаць чалавека ў касьмічны прастор, у ніякім выпадку ня можа быць разглядане, як адзнака вышэйшасьці савецкай навукі й тэхнікі. Ня быў гэтага доказам і факт, што 4 кастрычніка 1957 году Саветам першым удалося пусьціць першага спадарожніка вакол зямлі. Прайшло пасьля таго ня шмат часу, калі вакол зямлі й вакол сонца пачало кружыцца шмат больш і шмат лепш удасканаленых спадарожнікаў амэрыканскіх.

Палёт чалавека ў касьмічны прастор ужо даўно тэарэтычна быў разьвязаны і гэта ня толькі савецкай навукай. У Амэрыцы ўжо ад некаторага часу ёсьць падабраныя людзі, якія дабраахвотна згадзіліся паляцець вакол зямлі. Але Амэрыка заявіла, што яна тады толькі дазволіць чалавеку на такі палёт, калі будзе абсалютная пэўнасьць, што ён непашкоджаным вернецца й назад. А колькі ў Савецкім Саюзе было перад гэтым няўдалых спробаў палёту й колькі загінула такім чынам адважных людзей, аб гэтым хіба няведама й самому Гагарыну.

З другога боку таталітарная дзяржава, якой зьяўляецца Савецкі Саюз, заўсёды бязь ніякіх перашкодаў можа сканцэнтраваць свае высілкі на адным заданьні коштам занядбаньня раўнамернага агульнага разьвіцьця, неабходнага для людзкога шчасьця й дабрабыту, і навет коштам людзкіх ахвяраў. Затое вольныя дэмакратычныя дзяржавы заўсёды мусяць лічыцца з воляю народаў і раўнамерна заспакойваць усе іхныя патрэбы.

Саветы не занядбалі сугэраваць сьвету перакананьня, што ўдалым палётам вакол зямлі яны здабылі навуковую, тэхнічную й навет мілітарную перавагу над вольным сьветам, і пастараліся прыдбаць на гэтым прапагандовы капітал. Таму яшчэ ў дзень палёту савецкі ўрад, цэнтральны камітэт камуністычнай партыі й прэзыдыюм Вярхоўнага Савету зьвярнуліся зь мірным апэлем да ўсяго сьвету, прапануючы прысьпешаньне агульнага раззбраеньня й цьвердзячы, што першы палёт чалавека ў касьмічны прастор будзе служыць ня мэтам вайны, але мэтам міру й прагрэсу чалавецтва.

Хіба-ж сьвет забыўся аб тым, што ўсе намаганьні раззбраеньняў, якія робяцца вольным сьветам ад заканчэньня апошняе вайны й якія, у выпадку іхнага правядзеньня, увесь калясальны матарыяльны ўклад, які паглынаюць збраеньні, быў-бы ськіраваны для мірных мэтаў чалавецтва, заўсёды разьбіваліся аб савецкія нехаценьні справядлівага, для абодвых бакоў раўнамернага раззбраеньня? Усе-ж савецкія прапановы зводзіліся адно да такога раззбраеньня, якое забясьпечыла-б Саветам мілітарную перавагу над Захадам і тым самым аддавала-б яго на ласку й няласку Савецкаму Саюзу й сьветаваму камунізму.

Бальшавікі ў мэтах самаапраўданьня заўсёды цьвердзяць, што яны зброяцца дзеля таго, каб забясьпечыцца перад агрэсіяй заходняга імпэрыялізму. Але Захад мае неаспрэчны аргумэнт, які зьбівае ўшчэнт такія цьверджаньні. Пасьля Гірашымы Амэрыка адзіная мела доўгі час манаполь на атамную бомбу. Калі-б хацела тады зьнішчыць савецкі імпэрыялізм і раз назаўсёды вызваліць сьвет ад камуністычнай загрозы, дык нічога ня было-б лягчэйшага й пэўнейшага, як гэты манаполь выкарыстаць. Амэрыка-ж гэтага не зрабіла.

Сяньняшняя перамога Савецкага Саюзу ў касьмічным прасторы яшчэ не дае Савецкаму Саюзу тэй мілітарнай перавагі, якую меў Захад пры манаполі атамнае бомбы. Сяньняшнія амэрыканскія далёкасяжныя ракеты «Палярысы», якія могуць быць выкіданыя з пад вады й трапляць у мэту, зьяўляюцца рэальным грозным аружжам, на якое адна Амэрыка мае манаполь і якое практычна больш вартае, чым я апошні й будучыя палёты чалавека вакол зямлі. Практычная мілітарная вартасьць гэтых палётаў можа разьвіцца адно ў будучыні. А ў найбліжэйшай будучыні, бо праўдападобна яшчэ ў гэтым ці ў наступным месяцы маюць быць зрэалізаваныя й амэрыканскія палёты чалавека ў касьмічны прастор.

Тым ня меней цяперашняя савецкая ўдача ня можа быць не дааценьваная. Яна прапагандова будзе ў максімальнай меры выкарыстоўваная асабліва між адсталымі народамі, а палітычна будзе падмацоўваць савецкія пазыцыі ў іхнай халоднай вайне з вольным сьветам. Будучы сьведамым гэтага, прэзыдэнт Кэнэды на сваей прэсавай канфэрэнцыі 13 красавіка заявіў, што камунізм будзе прадстаўляць для вольнага сьвету вялікую небясьпеку яшчэ на працягу вялікай часьці бягучага стагодзьдзя. Але адначасна прэзыдэнт Амэрыкі выказаў запэўненьне, што дэмакрацыя акажыцца трывалейшай за камунізм, калі вольныя народы будуць разам ісьці да супольнае мэты.

**Язэп Каранеўскі**

# ЗН і свабода трагічная

Нядаўна добра ведамы на міжнародным груньце палітык Спаак назваў ЗН «сьвятыняй аблыжнасьці». Нехта могбы цьвердзіць, што Спаак, як Бэльгіец, злосны на ЗН за іхную акцыю ў Конго. Усё-ж цяжка сказаць, што гэтая арганізацыя мае вялікую пашану й сымпатыі ў сьвеце або што яна апраўдала ўскладаныя на яе надзеі й абавязкі.

ЗН — гэта першая рэінкарнацыя сумнай памяці Лігі Нацыяў. Крыху фантасты, больш ідэалісты — амэрыканскі прэзыдэнт Вільсон падаў быў ідэю стварэньня міжнароднага воргану, які быўбы сусьветным парлямантам і палагоджваў усе міжнародныя канфлікты. Гэтая арганізацыя мела быць арбітрам, судзьдзёй, а — ў выпадку патрэбы — і паліцыяй у сусьветным маштабе.

Бедны Вільсон яшчэ перад сьмерцяй пераканаўся, што ягонае ўлюбленае дзіця выявілася няўдалым. За 20 гадоў свайго існаваньня Ліга Нацыяў не змагла вырашыць ніводнай паважнай праблемы. Не змагла перашкодзіць падбою Абісыніі, вайне ў Гішпаніі, рэмілітарызацыі Надрэніі, захопу (аншлюсу) Аўстрыі, пазьней Чэхаславаччыны, а яшчэ пазьней — Клайпэды і — ўрэшце — выбуху Другой Сусьветнай вайны. Навет канфлікту паміж невялікімі дзяржавамі, як Польшча й Летува, Ліга Нацыяў ня мела змогі разьвязаць. І калі ў сьнежані 1927-га году на паседжаньні Лігі Пілсудзкі, стукнуўшы кулаком па стале літоўскага прэм'ера Вальдэмараса, коратка папытаўся: «Мір ці вайна?», Вальдэмарас коратка адказаў: «Мір». Вальдэмарас ведаў, што вайны з Польшчай ён ня выйграе і што Ліга Нацыяў яму не паможа. Пілсудскі захоўваўся брутальна, бо таксама ведаў, што Ліга яму нічога ня зробіць.

Рэінкарнацыя Лігі Нацыяў — ЗН за 15 гадоў свайго існаваньня таксама выявілася няздольнай да разьвязаньня складаных міжнародных праблемаў і ня зьдзейсьніла ўскладзеных на іх надзеяў.

Навучаныя горкім дасьведчаньнем зь Лігай Нацыяў арганізатары ЗН імкнуліся зрабіць гэтую арганізацыю больш спраўнай і стварылі нешта як-бы прыбудову, ці — гаворачы савецкім жаргонам — «надбудову» — Раду Бясьпечнасьці. (Ёсьць пэўныя дадзеныя і ёсьць дадзеныя паверыць, што гэта сталінскае «зязюльчынае ячэйка», хітра падкінутае ў чужое гняздо.)

Пэўна-ж, Рада Бясьпечнасьці магла-б быць вельмі карысным элемэнтам у структуры ЗН, калі-б у ейную аснову ня былі паложаныя дэструкцыйныя элемэнты. Адным зь іх — хаця не найгоршым — гэта тое, што Рада Бясьпечнасьці складаецца зь дзьвюх катэгорыяў сяброў: сталых, а гэта прадстаўнікі вялікіх дзяржаваў, і насталых, якія выбірае Генэральная Асамблея ЗН. Гэта ўжо ў некаторым сэньсе дыскрымінацыя, у некаторай меры адыход ад дэмакратычнасьці. Але найбольшым няшчасьцем Рады Бясьпечнасьці ЗН і ўсяго сьвету — права «вэта» аднаго зь сябрэў. І вось за 15 гадоў існаваньня Рады Бясьпечнасьці бальшавіцкія прадстаўнікі больш чымся 90 разоў выкарысталі гэтае праклятае права «вэта», тарпэдуючы такім чынам усе нявыгадныя для Масквы пастановы.

Таму ня дзіва, што ЗН пры такой структуры ня могуць выконваць сваіх заданьняў і ніводнай сапраўды паважнай праблемы не разьвязалі. Тут могуць нам закінуць неаб'ектыўнасьць, прыгадваючы Карэйскую вайну. Аднак-жа ў сапраўднасьці да абароны Паўдзённай Карэі ад камунізму больш спрычыніўся Труман, чымся Тругвэ Лі і без параўнаньня больш Амэрыка, чымся Задзіночаныя Нацыі. Як ня пікантна, але спрычыніўся і савецкі прадстаўнік у Радзе Бясьпечнасьці, які чамусьці не зьявіўся на першае паседжаньне Рады, пасьля нападу на Паўдзённую Карэю, і не належыў вэта на пастанову аб інтэрвэнцыі. Ці ён хітрыў, ці чакаў інструкцыяў з Масквы — напэўна ня ведама, але факт, што ня перашкодзіў.

Ведама, што падчас карэйскай вайны ЗН далі сьцяг і зарганізавалі некалькі «сымбалічных» батальёнаў, а ўвесь цяжар вайны несла Амэрыка. Вайна-ж была цяжкая й каштавала шмат ахвяраў. Урэшце Айзэнгаўэр, вывязваючыся зь перадвыбарчых забавязаньняў, разыйграў на рэміс і вярнуў дамоў амэрыканскіх бойсаў. ЗН таксама не пратэставалі.

Можна было-б дашукоўвацца пэўных уплываў ЗН у эгіпскім канфлікце. Але і тут больш зрабілі цьвёрдая пазыцыя Далеса, бясхрыбетнасьць Ідэна, нахабства Булганіна, чымся ЗН.

На ўсе іншыя большыя сусьветныя падзеі пасьля вайны ЗН амаль ня мелі ўплыву.

Дык хіба ёсьць досыць падставаў да пэсымізму й што да акцыі ЗН у Конга. Паўтараем, гэта паводля свайго характару адзіная арганізацыя, пакліканая да ўпарадкаваньня кангалянскага хаосу. Аднак дасюлешняя дзейнасьць ЗН у Конго ня выявіла ні наважанасьці, ні накіраванасьці, ні палітычнай асьведамленасьці. Стварацца ўражаньне, што ні ў цэнтралі ЗН, ні сярод іхнай адміністрацыі на месцы ня вельмі ведаюць, што і як рабіць. Ня ведаюць, каго ад каго бараніць: Касавубу ад Люмумбы, Люмумбу ад Чомбэ ці Чомбэ ад Гізэнгі. Урэшце рэштаў адміністрацыя міжплямённай разьні, трагічнай сьмерці Люмумбы й аддзелы ЗН самі ўблыталіся ў канфлікт з усімі, а, перш за ўсё з урадавым войскам, і хаос яшчэ павялічыўся.

Канфэрэнцыі кангалянскіх лідараў на Мадагаскары ўявіла некаторыя мерапрыемствы ў кірунку ліквідацыі анархіі. Але гэтыя лідэры маюць вельмі-ж абмежаваныя магчымасьці рэалізацыі гэтых мерапрыемстваў. Да гэтага пастановы ў Тананарыва не забавязваюць Гізэнгу, які абвесьціў сябе прэм'ерам і якога так сквапна і адна за другой прызнаюць краіны камуністычнага блёку.

ЗН з большай актыўнасьцяй і з поўнай гарманійнасьцяй мусілі-б дзеіць зь легальным урадам супраць анархіі й хаосу, а не павялічаць гэты хаос. Аднак ЗН быццам-бы выклікаюць урад Касавубу, але выклікаюць канфлікты з гэтым урадам, затое ў замшавых рукавічках абходзяцца з бандамі Гізэнгі, бо за Гізэнгам стаіць Масква й Пэкін. Такой тактыкай напэўна ЗН недалёка заедуць.

Няма сумлеваў, што заданьне ЗН у Конго вельмі-ж цяжкое, бо кангалянскія народы трэба ня толькі ўспакоіць, але карміць, вучыць і арганізаваць.

А мінулае гэтай арганізацыі не насоўвае аптымістычных думак...

**пс**

# Сёе-тое

Найбольшай навінай, якую да гэтага часу прынёс у амэрыканскае жыцьцё прэзыдэнт Кэнэды, гэта, бязумоўна, ёсьць Мірны Корпус. Людзі з унівэрсытэцкай асьветай або й ніжэйсьвечаньня прафэсыяналістыя ў галінах сельскай гаспадаркі, будаўніцтва, асьветы й аховы здароўя й іншых вярбуюцца ў Мірны Корпус на прынцыпе добраахвотнасьці. Пасьля перашкаленьня ў галінах моваў і ўмоваў жыцьця ў краінах, куды будуць накіроўвацца, ахвотнікі будуць жыць і працаваць у эканамічна адсталых краінах, атрымоўваць тую самую заработную плату, што мясцовыя жыхары. Маюцца на ўвазе перадусім краіны Афрыкі, Азіі й Паўдзённай Амэрыкі ды асабліва тыя, што адно становяцца на ногі й патрабуюць якраз такіх добракваліфікаваных працаўнікоў у васноўных галінах гаспадарскага жыцьця.

Да гэтай новай хвормы амэрыканскае дапамогі адстаючым краінам адклікнулася прыхільна ня толькі бальшыня амэрыканскага грамадзтва, але й перадусім шмат зацікаўленых народаў. Як ведама, да гэтага часу «энкл Сэм» памагаў адно грашмі, якія часта перапльвалі ў вялікай колькасьці ў кішэні паразітаў-бюракратаў, а ня йшлі на дапамогу шырэйшым масам. Дапамога кваліфікаванымі людзьмі будзе якраз і мець на мэце павышэньне дабрабыту шырокіх колаў грамадзтва. Амэрыканская студэнцкая моладзь аднеслася да праекту Кэнэды вельмі пазытыўна і ахвотнікаў у Мірны Корпус хоць адбаўляй. Як падае прэса, да канца сакавіка зарэгістравалася каля дваццаці тысяч.

Як мае выглядаць Мірны Корпус Кэнэды у вачох Мікіты й крамлёўскай сулалкі, пакуль што няясна. Ведама, што амэрыканская ініцыятыва ня можа Маскве падабацца. Да гэтага часу старыя й новапаўсталыя эканамічна адсталыя народы Азіі, Афрыкі й Паўдзённай Амэрыкі былі асабліва аб'ектам зацікаўленасьці бальшавіцкіх валадароў. Іхныя агэнты муцілі ды й сяньня муцяць там і так брудненькую вадзіцу.

Калі мірныя корпусьнікі прэзыдэнта Кэнэды спрычыняцца да палепшаньня жыцьця адсталых народаў і здабудуць новых прыяцеляў ня толькі для Амэрыкі, але й цэлага вольнага сьвету, бальшавіцкай пошасьці будзе адрэзана шмат шляхоў для пашырэньня.

Мірны Корпус вітаем і жадаем яму вялікіх посьпехаў!

*

Ізноў набліжаецца сьвята Афрасіньні Полацкай.

Занадта мала ўвагі Беларусы аддаюць Патронцы й Асьветніцы Беларусі. Усё, здаецца, абмяжоўваецца адным урачыстым малебнам у нашых эміграцыйных цэрквах раз на год. Праўда, Сьвятая Афрасіньня памінаецца і на прыканцох Сьвятых Літургіяў побач з такімі нашымі зоркамі рэлігійнае мінуўшчыны, як Сьвяты Кірыла Тураўскі, Мэркур Смаленскі ды і з маскалямі выдуманымі, легэндарнымі, гэтак званымі віленскімі мучанікамі — Антонам, Іванам і Астапам. А варта было-б Сьвятой Афрасіньні аддаць шмат больш увагі. Цімала Беларусаў мала або зусім ня ведае пра Яе калішняе жыцьцё й рэлігійна-асьветную працу. Акупанты чужнікі тыцкалі нам сваіх сьвятых, а нашых адсоўвалі на заднія пляны.

Усё-ж на бацькаўшчыне ці ў ваднэй хаце абраз Прадславы вісеў на самым пачэсным месцы на покуці. На эміграцыі-ж наша моладзь, тут роджаная, чуе, прыкладна, пра Сэн Патрыка — ірляндзкага патрона, ці іншых, а пра Афрасіньню нічога ня ведае.

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

# Беларуская Дэлегацыя ў Віцэ-Прэзыдэнта ЗША

Сёлетняе адзначаньне 43-х угодкаў Абвешчаньня Незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі пачалося ў Амэрыцы вельмі ўдалай і карыснай для нашага вызвольнага змаганьня падзеяй — кіраўніцтва Беларускае Праваслаўнае Аўтакефальнае Царквы й кіраўніцтва Галоўнае Управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў ЗША наведалі ў сераду 22-га сакавіка 1961 г. Вашынгтон, дзе беларуская дэлегацыя ў складзе Яго Высокапраасьвяшчэнства Архіяпіскапа ваў усю групу на клішы. Што гутарка сп. Віцэ-Прэзыдэнта з нашымі прадстаўнікамі была шчырая й вельмі сардэчная, кажны можа бачыць на здымцы. На працягу ўсяе аўдыенцыі ў габінэце сп. Віцэ-Прэзыдэнта былі прысутныя, як відаць на фатаграфіі, апрача сэнацкага капэляна др. Фрыдэрыка Браўн Гарыса, гэткія сэнатары: Якуб К. Джэйвіц, Кэнэт Б. Кітынг і Аляксандар Вілэй, якія й прадстаўленыя на здымцы. Усе яны гэтаксама выказалі, праз нашых прад-



**Віцэ-Прэзыдэнт ЗША Ліндан Б. Джансан сардэчна паціскае руку Яго Высокапраасьвяшчэнству Архіяпіскапу БАПЦарквы Васілю. На лева ад іх: капэлян Сэнату др. Фрыдэрык Браўн Гарыс, сэнатар Якуб К. Джэйвіц і сэнатар Аляксандар Вілэй. На права: сэнатар Кэнэт Б. Кітынг і старшыня Галоўнае Ўправы БАЗА К. Мерляк**

БАПЦ Васіля й старшыні Галоўнае Ўправы БАЗА сп. К. Мерляка злажыла візыту Сэнатару ЗША Якубу К. Джэйвіцу. Непасярэдна пасьля гэтага, Сэнатар Джэйвіц прадставіў нашую дэлегацыю Віцэ-Прэзыдэнту ЗША Ліндану Б. Джансану.

**Аўдыенцыя ў Віцэ-Прэзыдэнта ЗША**

Віцэ-Прэзыдэнт Джансан вельмі ветліва сустрэў нашую дэлегацыю ў сваім габінэце ў Капітолю. Ён прывітаў нашых прадстаўнікоў, як сваіх старых знаёмых, зь якімі ён сустракаўся, яшчэ будучы сэнатарам. Таму й далейшая гутарка, хоць ня надта даўгая, была вельмі ветлівая й сардэчная. Віцэ-Прэзыдэнт цікавіўся беларускімі справамі й прыканцы візыты пажадаў нашым прадстаўнікам хутчэйшага вызваленьня Беларусі.

— «А цяпер, — сказаў ён, — у знак гэтага майго зычэньня ды ў знак прывітаньня Амэрыканцам беларускага паходжаньня, мы замацуем нашую сустрэчу трывалым дакумантам». І запраўды, зараз-жа зьявіўся фатаграф і зафікса- стаўнікоў, свае найлепшыя пажаданьні беларускаму народу з нагоды 43-х угодкаў Абвешчаньня ягонае Незалежнасьці.

**Малітва ў Сэнаце**

Тымчасам зазьвінелі званкі, абвяшчаючы пачатак Сэсіі Сэнату. Віцэ-Прэзыдэнт, узяўшы нашага Уладыку пад руку, павёў яго на сваю трыбуну ў залі Сэнату ЗША. Абвесьціўшы тады, што Сэсія лічыцца адкрытаю, ён дадаў: «А цяпер прачытае нам малітву Архіяпіскап Васіль ад Беларускае Праваслаўнае Аўтакефальнае Царквы ў Нью-Ёрку.» І Ўладыка урачыстым малітоўным тонам прачытаў прысутным прадстаўніком Найвышэйшае Гасподы ЗША сваю малітву за Амэрыку й Беларусь. Віцэ-Прэзыдэнт уважна, як усе, яе праслухаў, шчыра падзякаваў Уладыку й дадаў: «вельмі прыгожа».

Скарыстаўшы з свайго прывілею ганаровага гасьця Сэнату, Уладыка Васіль застаўся колькі часу на ягонай Сэсіі, прыязна гутарачы з Сэнатарамі.

# Дзень Незалежнасьці Беларусі ў Нью Ёрку

**Малітвы**

Нядзельны дзень 26 сакавіка пачаўся ў катэдральным саборы сьв. Кірылы Тураўскага, дзе служыць Архіяпіскап БАПЦ Уладыка Васіль, ды ў вадным з бруклінскіх касьцёлаў, дзе Беларусы-каталікі маліліся разам з а. Гэрмановічам.

**Урачысты сход**

Папаўдні ў мангэтэнскім гатэлі «Білтмор» (традыцыйнае ўжо месца сакавіковых акадэміяў) адбыўся ўрачысты сход, зарганізаваны сіламі Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, а праведзены старшынём галоўнае ўправы БАЗА сп. К. Мярляком. Сход пачаўся з багаславенства Ўладыкі Васіля й прачытаньня ім малітвы за Беларусь, што 22 сакавіка ім-жа была сказаная ў амэрыканскім Сэнаце ў Вашынгтоне.

Сп. Мярляк у сваім уступным слове зьвярнуў увагу на аднолькавасьць імкненьняў да незалежнасьці амэрыканскага й беларускага народаў, на падабенства актаў незалежнасьці — амэрыканскага 1776 году й беларускага 1918 году, ды на адрознасьць гістарычнае долі гэтых двух народаў у выніку, перш-наперш, рознасьці геапалітычнага палажэньня. Прамоўца зазначыў, што нядоля Беларусі спрычыненая захопніцкім маскоўскім імпэрыялізмам, які зьнішчае ўсё на сваёй дарозе да сусьветнага панаваньня, ды выказаў перасьцярогу, што камуністычная падрыўная дзейнасьць пагражае ўжо й самой Амэрыцы. Ён заявіў, аднак, што народ, які прагне свабоды, здабудзе яе ўрэшце, не зважаючы на ўсе цяжкасьці.

**Прамоўцы**

Галоўным прамоўцам на беларускім сьвяце незалежнасьці быў ньюёркаўскі кангрэсмэн, дастойны Самуэль Стратан, які, прамаўляючы (паангельску, пачаў аднак і закончыў сваю прамову беларускімі словамі: «Спадарыні й спадары!» ды «Жыве Беларусь!»

Кангрэсмэн Стратан выявіў добрае разуменьне беларускага вызвольнага змаганьня ад часоў стварэньня Беларускае Народнае Рэспублікі аж да нашых дзён. Ён высака ацаніў гераізм і наважанасьць беларускага народу ў вадстойваньні свае дзяржаўнае незалежнасьці. Ён сказаў таксама, што Амэрыка павінна нясупынна цікавіцца пытаньнем свабоды для паняволеных народаў; што амэрыканская свабода ня можа быць поўная датуль, пакуль на сьвеце будзе тыранія. Вызваленьне, заявіў ён, павінна быць асноўным прынцыпам нашае замежнае палітыкі. Кангрэсмэн Стратан станоўка выказаўся за стварэньне ў Амэрыканскім Кангрэсе адмысловага Камітэту для справаў паняволеных народаў, а ў міністэрстве замежных справаў — пасады памочніка міністра для справаў паняволеных народаў.

Сп. Дж. Рычардсан, старшыня Міжнароднага Камітэту Дапамогі, выступаючы пасьля кангрэсмэна Стратана, адобрыў прапановы папярэдняга прамоўцы, але сказаў, што нельга ўсіх гэтых справаў пакідаць на Кангрэс і Прэзыдэнта; што трэба самім вялікіх высілкаў, каб дамагчыся іхнага зьдзейсьненьня ды што ўва ўсім гэтым вялікая роля ўскладаецца на грамадзкія арганізацыі, як, прыкладам, БАЗА.

Ад мэра Нью-Ёрку, сп. Робэрта Вагнэра, на сьвяткаваньні быў ягоны асабісты прадстаўнік сп. Дж. Бэрн, які прачытаў акт абвешчаньня мэрам Вагнэрам Дня Незалежнасьці Беларусі ў месьце Нью-Ёрку ды вітаў Беларусаў зь вялікім нацыянальным сьвятам.

Прамовамі віталі Беларусаў таксама прадстаўнікі ад Украінцаў (д-р С. Ярэма й сп. Ул. Душнік), Грузінаў (праф. Накашыдзэ), Альбанцаў (д-р Лжэрмэні), Славакаў (сп. Сыдляк), Палякоў (праф. Лівач), Ідэль-Уральцаў (сп. Гамід Рашыд), Карэйцаў (сп. Чан-Хан-Кім, генэральны консуль паўднёва-карэйскага ўраду ў ЗША й прадстаўнік у ЗН).

**Госьці**

Сп. Мярляк прадставіў удзельнікам сходу госьцяў; беларускае сьвята наведалі:

Сп-чна Анджэля Ансольды, прадстаўнік канцылярыі мэра Вагнэра; сп-ня Душнік ад арганізацыі ўкраінскіх жанчын; баранэса Софі дэ Шырмэр; д-р Ільля Гольдман ад Амэрыканскае Рады за Незалежную Грузію; сп. Джэк Віктар ад Моўнага Дасьледніцкага Цэнтру; спадарства Мерлякі із штату Канэктыкет; рэдактар часапісу «Казацкае Жыцьцё», сп. І. Качалынскі; д-р В. Глазкоў, старшыня Найвышэйшага Казацкага Прадстаўніцтва на Чужыне; сп. Пракоп ад замежнага прадстаўніцтва Найвышэйшае Ўкраінскае Вызвольнае Рады, сп. Фрэнк Романо; сп. Нам Абрамовіч; сп. Р. Наквэй ад Паўночна-Каўкаскага Задзіночаньня; сп. Г. Ерэменка ад Казацка-Амэрыканскага Нацыянальнага Згуртаваньня; сп. Шарыф Мадаман ад Паўночна-Каўкасцаў; сп. Альбэрт Каралі ад Паўночна-Каўкаскага Задзіночаньня ў ЗША; сп. Ул. Трэмбіцкі; сп. Г. Султан ад Амэрыканскага Камітэту за Незалежнасьць Ідэль-Уралу; д-р Лявон Трусэвіч, марскі капітан.

**Пісьмовыя прывітаньні**

Сп-чна Галіна Ганчарэнка, прачытаўшы тэкст праклямацыі, якою ньюёркаўскі губэрнатар Ракафэлэр абвесьціў і сёлета Дзень Незалежнасьці Беларусі ў штаце Нью-Ёрк, пералічыла таксама асобаў, што прыслалі пісьмовыя прывітаньні. Дзеля нястачы часу поўнасьцяй прачытаная была толькі прывітальная тэлеграма ад сэнатара Кэнэта Кітынга, поўная прыхільнасьці й цёплых слоў. Прывітаньні прыслалі таксама: мэр Нью-Ёрку Р. Вагнэр; старшыня ньюёркаўскае меставае Рады, сп. Эйб Старк; губэрнатар штату Нью-Ёрк Н. Ракафэлэр і ягоны заступнік; бургомістр Брукліну; амэрыканскі міністар гандлю Лютар Годжэс; міністар юстыцыі Робэрт Кенэды; міністар працы Артур Голдбэрг; дырэктар Фэдэральнага Бюро Расьсьледу Эдгар Гувэр; амэрыканскі пасол у ЗН Адляй Стывэнсан; філіпінскі прадстаўнік у ЗН сп. Эльгадо; губэрнатары штатаў Род-Айлэнд, Мэрылэнд, Мінэсота, Паўночная-Караліна, Місуры, Масачусэтс, Каліфорнія, Індыяна, Вэрмонт, Ваёмінг, Вашынгтон, Заходняя Вірджынія, Дэлявэр, Тэксас. Пісьмовыя прывітаньні прыслалі таксама больш за дваццацёх сэнатараў і кангрэсмэнаў ды цэлы рад іншанацыянальных і беларускіх арганізацыяў.

Гучнымі воплескамі было сутрэтае паведамленьне аб перасланьні Прэзыдэнтам Кенэды Беларуска-Амэрыканскаму Задзіночаньню свайго партрэту з подпісам.

Дзень Незалежнасьці Беларусі, апрача штату Нью-Ёрк, быў абвешчаны ў штатах Нью-Джэрзы й Огаё.

На ўрачыстым сходзе ў Нью-Ёрку была аднагалосна прынятая рэзалюцыя, пераклад якое з ангельскае мовы далучаецца да гэтае карэспандэнцыі.

**Мастацкая частка**

Нумары мастацкае часткі чарадаваліся з прамовамі й іншымі фармальнасьцямі вядзеньня сходу. Праграма была самадзейная ды складалася зь песьняў і дэклямацыяў. З дэклямацыямі выступілі дачушкі спадарства Кажаноў і хлопчыкі Юрка Курыла й Юлік Мярляк. У выкананьні песьняў узялі ўдзел сп-ня Л. Маркоўская (солё), сп-чна Галіна Орса (солё), Оля й Клава Ярашэвіч (дуэт). Рэпэртуар у сьпявачак быў новы й добра выкананы: песьні кампа-

(Заканчэньне на 3-яй бачыне)

**МАЛІТВА**

**У імя Айца, і Сына, і Сьвятога Духа.**

**Усемагутны й Прадвечны Божа! Гэтую малітву нашую мы шлем Табе ў гадавіну Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі, свабода якое была няміласэрна патаптаная грубою бязбожнаю сілаю, мільёны мучанікаў якое перад сьвятым Прастолам Тваім моляць Цябе: учыні Суд Твой справядлівы, памажы вярнуць свабоду нам і ўсім паняволеным народам.**

**У гэты ўрачысты мамэнт мы просім Цябе, Божа й Ойча наш, будзь міласьцівы да нас, бо Ты Вялікі й цуды чыніш! Ты — Адзіны Бог наш, поўны ласкі й праўды, славы й велічы!**

**Міласьцівы Божа! Ты багаславіў народ краіны гэтае, бо Ты любіш справядлівасьць і ненавідзіш беззаконнасьць. Ты Сам абяшчаў на зямлі свабоду й зрабіў яе асноваю людзкога жыцьця. Багаславі кіраўнікоў і заканадальнікаў Краіны гэтае, умацуй сэрцы іхныя Ласкаю Тваёю, памажы ім у іхным змаганьні за Тваю Праўду й Свабоду ўсюды, для ўсіх народаў, што пакутуюць у няволі.**

**Мы з пакораю пахіляем галовы свае перад Табою, Божа й Спасе наш, і зь вераю молім Цябе: прыймі гэтую малітву нашую, багаславі Задзіночаныя Штаты Амэрыкі й нашую Маці-Беларусь!**

**Няхай слаўнае імя Тваё, Божа й Ойча наш, жыве й зьзяе ў сэрцах нашых, і багаслаўленае будзе цяпер і заўсёды, і навекі. Амін.**

# Творы Алеся Гаруна

**(Працяг)**

## ВАРАЖБА

**(Засьцянковая аповесьць)**

Бліжыцца поўнач. У гэтай пары
Сон пахаджае па панскім двары.
Сыпяць, паканчаўшы звычайную працу,
Чэлядзь у зборні, паны у палацу;
Толькі стары вартаўнічы Ігнацы
Ходзіць з клякоткай і піпкай сваёй:
Двор сьцеражэ ад людзіны ліхой.

Ходзіць стары і мурмоча пад нос:
— Ну і прakляты-ж сягоньня мароз!
Новы кажух прабірае, псяя вера,
Быццам кажух — не кажух, а папера.
Брэша, ня зломіць старога жаўнера, —
Панна Амільля, хай Бог ёй аддасьць,
Вызваліць з гора, ня пусьціць прапасьць.

Цягам, як толькі пачнецца цямнець,
Зараз палынаўкі з кухні нясець,
Міла глядзіць і ласкава сьмяецца:
— Хочаце можа, Ігнацы, пагрэцца? —
Гэткі парадак ня ўсюды вядзецца!
Добрае сэрца! Павет абыйсьці,
Роўную паньне, бадай, каб знайсьці . . .

Адвант на сходзе. Яшчэ да Каляд
Тыдзень застаўся адзін акурат.
Неба у зорах, і кажна зь іх зьзяе,
Месяц зялёны свой блеск пасылае,
Лёгкі марозік за шчокі хапае,
Сьнег пад нагамі прыемна рыпіць, —
Ведае варту Ігнацы, — ня сьпіць.

Панна Амільля тымчасам сабе
Вечар праводзіць у нейкай журбе:
Нейкія трызьні плятуцца дзяўчыне —
Быццам яна не ў двары ахмістрыня,
Быццам яна ня жызе ў вахвіцыне,
Быццам яна нямаведама хто,
Хочацца сэрцу няведама што.

Спомніць мамульку, татульку, свой дом,
Спомніць сябе невялічкую ў ём,
Большага брата і няньку-бабульку,
Тэклю, Агатку, Ганульку, Аршульку,
Даўных равесьніц . . . кароўку Рабульку . . .
Дзе яно ўсё? І ня вернеш тых дзён,
Зьнікла, як дым, расплылося, як сон! . .

Страшна і ўспомніць далёкі той год
(Чорным яго называе народ). —
Пошасьць з касою па сьвеце хадзіла,
Панну Амільлю сіроткай зрабіла,
Родных, сямейку зямлёю пакрыла.
Доля, няначы, — ў яе ўсё ў руццэ:
Узялі паны гадаваць пры дачцэ.

Устане, паходзіць і сядзе ізноў,
Б'ець у галоўку гарачая кроў;
Нейкія ў сэрцы праўраліся тамы,
Твар то зблядне, то зробіцца ў плямы . . .
Стане прад Маткай Сьвятой з Войстрай Брамы,
Просіць: «Прачыстая, зьгінуць ня дай,
Гора адкінь, ад бяды захавай!»

Ручкі заломіць, і сьлёзы цякуць . . .
Новыя думкі ізноў набягуць, —
Жыцьцё у людзях сабе выкладае.
Цяжкае жыцьцё! Хаця спагадае
Маткі заступніца, пані старая,
Пан — як-бы родны . . . Нявесела жыць!
Час у жалобе, ў маркоце бяжыць.

Хочацца сэрцайку ласкі ня той, —
Хочацца спогадзі паньне другой . . .
Тэкля, Аршулька, Ганулька — сужонкі,
Шлюбныя носяць на пальцах пярсьцёнкі . .
Моліцца панна да сьвёнай патронкі:
«Панна сьвятая, ты неба ўмалі,
Вернага друга мне ў жыцьці пашлі!»

Ды усьміхнецца прыгожа . . . Каму?
Ведама, — пэўна, яму аднаму . . .
Рожы цьвітуць на бялюсенькім твары.
Што-ж тут за цуд і чые-ж гэта чары?
Праўду сказаць? . . Вінаваты гусары.
Ну, хоць ня ўсе, дык прызнамся адзін
Паньне прычынай маркотных гадзін.

Стройны, прыгожы, — праўдзівы жаўнер:
Гляне — як сокал! Які-ж кавалер!
Майстра на жарты які, на хіхоты;
Як удаецца у шабунькі, ў залёты,
Лёсткі пушчаць — навучыся ў яго ты!
Як ён часамі умее глядзець:
У танцы які! — не пазволе сядзець!

Ручку як сьцісьне, на вуха шапне
Слоўца такое, што й сэрца замрэ!
Шкода, нядоўга яны пастаялі . . .
Толькі тры дні усяго балявалі
Гэтта, ў двары, і паехалі далей.
Рушылі ў Вязьму, а стуль пад Маскву.
Чуець паненка, маўляў наяву,

Як прад ад'ездам ён цяжка ўздыхаў;
Помніць — навекі аб ёй прысягаў;
Як ад'яжджаючы, бачыць, скланіўся . . .
Праўда-ж? Ці помніць? Ці, можа, забыўся?
Любіць? Ня любіць? . . У другую ўлюбіўся?
Можа ўдаваў закаханьне нажарт?
Трэба аб гэтым спытацца у карт!

Праўда, што Адвант, і грэх варажба,
Што-ж — калі гоне ў сухоты журба!
Бог міласэрны няхай выбачае . . .
Панна Амільля ў красэлка сядае,
Тальлю картуе, шэсьць карт выкладае,
Сёмая карта кладзецца падніз:
Хітры пасьянс пачынае — «маркіз».

«Любіць? ня любіць? Любіў? ня любіў? . .
Верным застаўся? . . Ці верным ня быў?» —
Шэпча паненка. Пасьянс зьбунтаваўся . . .
«Дзе-ж той чырвоны караль падзяваўся?
Мусіць ня любіць! . . не, гэты ня ўдаўся!
Іншы спрабую цяпер разлажыць» . . .

Час памаленьку бяжыць ды бяжыць.
Поўнач прайшла. У дворы пятухі
Раз прапялі спад цёплай страхі.

# РЭЗАЛЮЦЫЯ

**Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Амэрыцы (БАЗА), прынятая аднагалосна ў гатэлі «Білтмор» у Нью-Ёрку 26 сакавіка 1961 г. на масавым сходзе, прысьвячаным 43-ім угодкам Незалежнасьці Беларусі**

Мы, Амэрыканцы беларускага паходжаньня, сабраўшыся на сьвяткаваньні 43-іх угодкаў незалежнасьці Беларусі,

**заяўляем**

— што Задзіночаныя Штаты Амэрыкі, палітычна й эканамічна вядучая дзяржава дэмакратычнага сьвету, забясьпечвае свайму народу палітычную, рэлігійную, культурную, сацыяльную й эканамічную свабоду;

— што амэрыканскі народ здаўна трымаецца прынцыпаў, выказаных у Амэрыканскім Акце Незалежнасьці, што «ўсе людзі створаныя роўнымі» ды што яны маюць права на свабоду й незалежнасьць;

— што, з другога боку, на працягу 43-ох год свайго йснаваньня камуністычная Расея паняволіла шмат народаў Эўропы й Азіі шляхам агрэсіі або падрыўное дзейнасьці й пазбавіла іх асноўных свабодаў;

— што Расея сталася вялікай імпэрыялістычнай небясьпекай, якая пагражае ўсім свабодным народам, у васаблівасьці Задзіночаным Штатам Амэрыкі — нашай новай бацькаўшчыне;

— што Задзіночаныя Штаты Амэрыкі маюць патрэбную сілу й наважанасьць супрацівіцца агрэсіі з боку камуністычнага расейскага імпэрыялізму й бараніць прынцыпы свабоды народаў, у тым ліку й народу беларускага.

**Мы пратэстуем**

— супраць імпэрыялістычнае агрэсіі з боку камуністычнае Расеі, супраць паняволеньня Беларусі й пазбаўленьня беларускага народу палітычнае, рэлігійнае, культурнае й сацыяльнае свабоды; супраць насільнае русыфікацыі, эканамічнага прыгону й каляніяльнае эксплятацыі;

— супраць улады тэрору на Беларусі, супраць масавых вывазаў й нарадагубнае палітыкі, якая на працягу апошніх 20-ёх год спрычыніла дэмаграфічную нястачу шасьцёх міліёнаў народу на тэрыторыі Беларускае Савецкае Сацыялістычнае Рэспублікі.

**Мы асуджаем**

— усякую палітыку самазаспакаеньня й суіснаваньня з расейскім камуністычным імпэрыялізмам; усякую палітыку, што адабрае твораную Масквой агрэсію; усякую палітыку, якая магла-б спрыяць пашырэньню таталітарных камуністычных ідэяў;

— усякую палітыку дыскрымінацыі народаў, як, прыкладам, палітыку, што падтрымвае вызвольныя рухі ў Афрыцы, але адначасна адмаўляе права на свабоду народам, паняволеным Расеяй;

— ігнараваньне й байкатаваньне Рэзалюцыі Амэрыканскага Кангрэсу (закон 86-90) некаторымі афіцыйнымі ўстановамі й прыватнымі камітэтамі;

— арганізаваную камуністымі «Акцыю Ліквідацыі» (Operation Abolition) ды сьведамае падтрымваньне гэтае акцыі некаторымі амэрыканскімі коламі з мэтай ліквідацыі кангрэсавага Камітэту для Разгляду Не-Амэрыканскае Дзейнасьці й паслабленьня Фэдэральнага Бюро Расьсьледу (FBI), каб гэткім чынам спараліжаваць законы бясьпекі нашага ўраду;

— дыскрымінацыйнае стаўленьне амэрыканскага ўрадавага агенцтва ў дачыненьні да беларускае мовы, выключанае з радыёвых праграмаў «Голасу Амэрыкі».

**Мы падтрымваем**

— урад ЗША ў ягоным намаганьні дасягнуць трывалага міру ў сьвеце для забясьпечаньня свабоды й справядлівасьці ўсім людзём і народам;

— рэзалюцыю (закон 86—90), аднагалосна прынятую абедзьвюма палатамі Амэрыканскага Кангрэсу й абвешчаньне Прэзыдэнтам трэйцяга тыдня ліпеня «Тыднем Паняволеных Народаў»;

— Кангрэсавы Камітэт для Разгляду Не-Амэрыканскае Дзейнасьці ды ягоную патрыятычную й неабходную дзейнасьць, выказаную ў кірунку ўзмацненьня бясьпекі ЗША;

— сэнатара Томаса Джэй. Додда із штату Канэтыкет за ягоную патрыятычную й далёкабачную акцыю стрыманьня даставы Савецкаму Саюзу дакладных машынаў, што прысьпешылі-б няспраўную вытворчасьць расейскіх ваенных ракетаў;

— рэзалюцыю кангрэсмэна Даніеля Джэй. Фляда із штату Канэтыкет, якою прапануецца стварыць у палаце Прадстаўнікоў Камісію для справаў паняволеных народаў.

**Мы забавязваемся**

— узмоцніць нашыя высілкі стварыць задзіночаны фронт Амэрыканцаў беларускага паходжаньня, каб магчы ўліцца больш актыўна ў палітычнае, культурнае й сацыяльнае жыцьцё Амэрыкі з мэтай пабольшаньня нашага ўкладу ў эканамічны й духовы рост гэтага краю;

— пашыраць веды й праўду пра беларускі народ і ягоныя імкненьні да незалежнасьці, каб здабыць сымпатыю й падтрыманьне з боку амэрыканскага народу для справы вызваленьня Беларусі й адбудовы незалежнае беларускае дзяржавы.

**Мы заклікаем**

— народ ЗША і ўвесь свабодны сьвет даць усякае магчымае падтрыманьне беларускаму народу ў ягоным шматгадовым змаганьні за вызваленьне ад расейскага камунізму;

— амэрыканскі ўрад быць пільным і адпаведна прырыхтаваным супраць нямінучае агрэсіі, якую плянуе камуністычная Расея, намерваючыся апанаваць сьвет;

— амэрыканскія ўлады належна разгледзець нашую просьбу ў справе беларускіх радыёвых перадачаў у «Голасе Амэрыкі».

# Напярэдадні Гадавога Зьезду БАЗА

Неўзабаве мае адбыцца гадавы зьезд Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Амэрыцы. Паколькі апошнімі часамі паміж рэдакцыяй «Бацькаўшчыны» а дасюлешнім старшынём галоўнае ўправы БАЗА, сп. К. Мерляком, было колькі прынцыпова спрэчных разыходжаньняў, мы ўважаем, што заўвагі й меркаваньні, паддадзеныя ніжэй пад развагу сяброў БАЗА, памогуць уясьніць сабе, адкуль гэныя спрэчныя пытаньні бяруцца й да чаго яны вядуць, — каб у будучыні не дапушчаць да гэткага стану рэчаў.

Выходны пункт нашага разважаньня — патрэба гарманічнага ўзаемадачыненьня паміж грамадзкімі арганізацыямі, Радай Беларускае Народнае Рэспублікі й цэласьцяй беларускае эміграцыі ў вольным сьвеце.

БАЗА — арганізацыя грамадзкая, апалітычная. Бясспрэчна, што сябры й кіраўнікі БАЗА маюць і павінны мець — свае ідэялягічныя пераканаьні й палітычныя пагляды. Ніхто ня можа забараніць ім, як паасобным адзінкам або сябром палітычных партыяў, ці радным БНР, выказваць свае пераканаьні й пагляды ды праводзіць іх у жыцьцё. Гэта асноўная праўда, як і тое, што наш палітычны ідэал — Беларуская Народная Рэспубліка, а наш палітычны праваднік, каардынатар і арбітр — Рада БНР, якую мы падтрымваем, якой мы памагаем, да якое належаць кіраўнікі нашых грамадзкіх арганізацыяў ды дзейнасьць якое выдатна падтрымваецца Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем ад самога пачатку ягонага заснаваньня. На гэтым прынцыпе пабудаванае ўсё нашае беларускае эміграцыйнае жыцьцё.

У кажным краі грамадзкія арганізацыі гуртуюць вакол сябе Беларусаў дадзенага краю для дзейнасьці культурна-асьветнае, харытатыўнае, рэпрэзэнтацыйнае й да г. падобнае, а сэктары Рады БНР, будучы палітычнымі цэнтрамі нашага бытаваньня ў кажным краі, злучаюць адначасна ў вадно цэлае ўсю беларускую эміграцыю. У гэтым нашая сіла, і толькі дзякуючы гэткаму адзіна магчымаму разумнаму падзелу функцыяў і абавязкаў беларуская эміграцыя здольная да максымальнага нацыянальна-вызвольнага высілку.

Апошнім часам сталася, аднак, што старшыня галоўнае ўправы БАЗА, сп. К. Мерляк, чалавек, бясспрэчна, дынамічны й энэргічны, з вышыні займанага ім становішча ўздумаў кіраваць ня толькі справы свае арганізацыі, але й вонкавую палітыку цэлае Рады БНР.

Вось факты.

У травені-чырвені 1960 г. 9-ая Сэсія Рады БНР у Нью-Ёрку, у якой браў удзел і радны сп. Мярляк між іншых пытаньняў вонкавае палітыкі разглядзела была й справу супрацоўніцтва з Амэрыканскім Камітэтам. Пасьля дыскусіяў было прызнана й зафіксавана ў пастанове Сэсіі, што ў ватульным супрацоўніцтва з Амэрыканскім Камітэтам, не зважаючы на некаторыя нястачы й некаторыя прынцыповыя разыходжаньні, было дасюль фактам пазытыўным і карысным. Гэтым самым было апрабаванае далейшае супрацоўніцтва й высілкі ў кірунку далейшага здабываньня ад амэрыканскіх дзейнікаў пазыцыяў, карысных для беларускай вызвольнай справы.

Па няпоўных чатырох месяцах пасьля Сэсіі, нямаведама дзеля якіх прычынаў, старшыня галоўнае ўправы БАЗА пастанавіў раптам, што «на сучасным этапе» супрацоўніцтва з Амэрыканскім Камітэтам «шкоднае» й цягне за сабой «запраданасьць» беларускае нацыянальнае справы. Гэтае становішча старшыні галоўнае ўправы БАЗА ў катэгарычнай і безапэляцыйнай форме было выказанае ў лісьце на фірмовай базаўскай паперы да Прэзыдэнта Рады БНР з копіяй да рэдакцыі «Бацькаўшчыны». Разам з гэтым ставілася ўльтыматыўнае дамаганьне зьмяшчаць у «Бацькаўшчыне» выказваньні й зацемкі галоўнага старшыні БАЗА, у якіх безаглядна ганілася ўся сучасная вонкавая палітыка Рады БНР.

Ува ўсім гэтым важна ўсьведаміць сабе асноўнае: пытаньне тут ня ў супрацоўніцтве ні несупрацоўніцтве з Амэрыканскім Камітэтам. Калі-б гэтае самае пытаньне тэй-жа самай асобай было пастаўленае на паседжаньні сэктару ці Прэзыдыюму Рады (што радны сп. Мярляк мог-бы зусім спакойна зрабіць), дык было-б гэта зусім зразумелым і нармальным. Але-ж палітыку Рады БНР хоча кіраваць старшыня ўправы БАЗА, выломваючыся навет з асноўнага вымаганьня — узгадняць усе свае падобныя выступы зь іншымі сябрамі галоўнае ўправы, а ўрэшце дзеючы й наўсуперак самое галоўнае ўправы. «Бацькаўшчына», будучы ляяльнай да Рады БНР і да Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, адмовілася зьмяшчаць партызанскія выказваньні галоўнага старшыні БАЗА, сярод іншых прычынаў і дзеля таго, каб у вачох усяе беларускае эміграцыі ня выстаўляць БАЗА ў хвальшывым выкрыўленым сьвятле.

Упорыстасьць старшыні Згуртаваньня пачала пхаць справу далей, стварыўшы абставіны, што такія авантурнікі, як Хмара й Рыжы-Рыскі пачалі падхвальваць і пацепваць па плячы, як свайго палітычнага аднадумца, цэлае Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, каб магчы на гэтым фоне выдаваць свае камэнтары пра бээнэраўскую «мафію» й падобнае. І гэта тады, калі маскоўскі акупант якраз ўзмоцніў свой прапагандавы паход на БНР і ейных кіраўнікоў.

Засьляпленьне часам бывае бязьмежным. Апошнім актам «помсты» (няведама толькі супраць каго) з боку старшыні галоўнае ўправы БАЗА ў змаганьні за правы кантролю над вонкавай палітыкай Рады БНР была базаўская рэзалюцыя, праведзеная на сёлетнім сакавіковым сьвяткаваньні ў Нью-Ёрку. Прачытаўшы гэтую рэзалюцыю, нельга не заўважыць, што ў ёй дэманстрацыйна прапушчаныя такія рэчы як «Беларуская Народная Рэспубліка», «Рада БНР», «экзыльны ўрад БНР» і навет «Беларусы Амэрыкі». Месцы іх занялі ўжо «Амэрыканцы Беларускага паходжаньня», «наш (г. зн. амэрыканскі) урад, «нашая новая бацькаўшчына». Гэта вельмі добра, што сяньня сьведамыя беларускія патрыёты могуць гаварыць пра амэрыканскі ўрад, як пра свой, і пра Амэрыку,

**(Заканчэньне на 4-ай бачыне)**

# Дзень Незалежнасьці Беларусі ў Нью Ёрку

**(Заканчэньне з 2-ой бачыны)**

зытараў М. Куліковіча, К. Барысаўца й сп-ні Э. Зубковіч (якая акампаніявала сьпявачкам на фартапіяне) на словы сп-ні Н. Арсеньневай, М. Кавыля, Янкі Купалы й Ларысы Геніюш. Выступаў таксама з чатырма песьнямі хор пад кіравецтвам сп. Андрэя Каптуровіча.

**Заўвагі**

Сакавіковая акадэмія ў Нью-Ёрку прайшла ўдала. Маючы, аднак, наўвеце будучыню, на некаторыя мамэнты трэба ўзяць увагу:

Кажная рэч мае свае менш-больш нармальныя памеры, у тым ліку й сьвяточныя акадэміі. Дзьве гадзіны — можа быць, але чатыры — станоўка зашмат. Нядобра, калі прадстаўляючы гасьця ў часе сьвяткаваньня, даводзіцца паясьняць, што ён пакінуў ужо залю. Трэба ўціскаць у рамкі ня толькі даўжыню прамоваў, але й колькасьць прамоваў.

Благое ўражаньне робіць калечаная ангельская мова й вымова, якою вядзецца сход — сход разьлічаны ў вялікай меры на вонкавую рэпрэзэнтацыю, дзе зьмест ацэньваецца паводля формы. Грамадзтва, якое мае за сабой больш за дзесяцігодзьдзе арганізацыйнага жыцьця ў Амэрыцы можа й павінна лепш выказацца сваім адукацыйным прагрэсам.

На такіх сьвяткаваньнях, як угодкі незалежнасьці Беларусі, належнае месца ў вядзеньні ўрачыстасьці павінна пакідацца беларускай мове. Таксама не павінна было-б уважацца за ненармальную зьяву, калі-б іншыя прамоўцы, як скажам, ад Украінцаў ці Славакаў, карысталіся ў прывітаньнях сваёй роднай мовай. Бальшыня ўдзельнікаў нашых нацыянальных сьвяткаваньняў — старэйшыя Беларусы. Для іх свая мова мае, апрача іншых, чыста практычнае значаньне. Яны хочуць ведаць, **што** гаворыцца і тым больш хочуць разумець зьмест тых дакумэнтаў, прыняцьце якіх ім прапануецца. Прыкладам, прынятая на сёлетняй акадэміі рэзалюцыя мусіла быць чытаная ў беларускай мове, а не ў вангельскай. Нялічных госьцяў можна задаволіць прырыхтаваным перакладам. Апрача гэтага, беларуская мова на сьвяткаваньні незалежнасьці мае (побач з практычным) сваё сымбалічнае значаньне для моладзі, якую трэба вучыць шанаваць і карыстацца беларускай мовай у ўсіх праявах нашага нацыянальнага жыцьця. **Я. Запруднік**

**Ад Рэдакцыі:** Справаздачы із Сакавіковага сьвяткаваньня ўва ўсіх іншых беларускіх асяродзьдзях вольнага сьвету будуць зьмешчаныя ў наступным нумары «Бацькаўшчыны».

---

Крайчыкам месяц зза хмар выглядае.
Панна Амільля варожб ня кідае,
Новы, хітрэйшы пасьсянс раскладае:
«Любіць, ня любіць, любіў, ашукаў,
Верным застаўся, ці ім ня бываў?» . . .

Рыпнулі дзьверы . . . І вось на парог . . .
Панначка зірк! — Гэта-ж ён, далібог!
Палец да губ прылажыў, усьміхнуўся,
Дзьверы прымкнуў за сабой, азірнуўся.
— Панна чакала, каб я ды вярнуўся? —
Ціха на пальчыках к ёй падыйшоў.
Дзеўча адразу ня знойдзе і слоў.

Потым зьдзіўленьне крыху адыйшло.
— Скуль пан узяўся і што прывяло? —
Гэтак пытае. Урода асанны.
Сам, як ягнётка, ласкавы, рахманы.
— Жыць не магу без каханае панны!
Мусіць нідзе не спаткаю такой . . .
Дай ты мне шчасьце, вярні мой спакой! —

Рукі зложыў і на коленкі стаў,
К ножкам дзяўчаці галоўкай упаў.
Панна Амільля, сумеўшыся гэтым,
Хоча устаць, адхіснуцца, а дзе там!
Ён ня пушчае і моле ўсім сьветам:
— Будзь гаспадыняй, царыцай маёй,
Сэрца зьлячы мне, душу заспакой! —

Што тут рабіць? Гэта-ж могуць пачуць.
Потым увочы усе засьмяюць:
«Панна уночы ды госьцяў прыймае!»
Ручкай гусара з кален падымае;
Просіць устаць, ня крычаць, сунімае,
Садзіць у крэсла, прыносіць вады . . .
— Ціха, мой пане, наробіш бяды!

Людзі пачуюць — нічога табе.
Сеў дый паехаў, і сам па сабе.
Я-ж і назаўтра тут мушу застацца;
Будзе ад сораму недзе схавацца,
Людзі пачнуць як навокал сьмяяцца:
«Ў панны Амілii ёсьць кавалер».
— Хай не сьмяюцца! Бо плакаць, павер,

Будуць, паненка, яны над сабой,
Покуль гуляю яшчэ з галавой,
Покуль ня судзіць мне доля прапасьці.
Хіба сама ты захочаш напасьці,
Думкі ня споўніш маёе аб шчасьці.
Ведай: прыехаў забраць я цябе,
Ў разе-ж нязгоды — застрэліць сябе.

Бачыш, кладу я на стол пісталет:
Коркі падняты, набоі, як сьлед.
Добрая гэта турэцкая штука!
Дзед адабраў на вайне ў мамалюка;
Можа сягоньня прыдасца на ўнука.
Воля твая: рассудзі, выбірай, —
Шчасьцем дары ці на сьмерць пакарай.

— Пан не даеш мне з чаго выбіраць,
Я не хачу ні судзіць, ні караць!
Як-жа так раптам . . . ці-ж можна, скажэце?
То-ж ня гульня, а мы з панам ня дзеці, —
Трэба падумаць яшчэ, паглядзеці . . .
— Панна Амілія, мне не пярэч!
Хіба ня любіш ? . . . — Ня панская рэч!
Пану да гэтага справы няма,
Ведаю думкі свае я сама.
Можа-б любіла, каб гэтак ня яглiў,
Так не палохаў, з адказам ня нагліў,
Быў да паненак ня гэтак панадліў,
Можа-б тады і пайшла . . . А цяпер ? ! —
Панна збляднела, маўляў-бы папер;

Хоча скзаць і баіцца сказаць,
Вочкі спусьціла, павекі дрыжаць . . .
Той-жа гусар, як смала, прычапіўся,
Ручку цалуе і з крэсла ўсхапіўся,
Зноў на каленах ля ног апыніўся.
— Сонейка, — просіць, — кажы, ня чакай:
Ў пекла мне судзіш ці разам у рай?

Любіш — ня любіш, шкадуеш ці не, —
Дай-жа спакою, ня муч ты мяне! —
Сэрца паненскае, ведама, з воску,
Возьмем мы места ці зьвернемся ў вёску:
Толькі-б ангельчык — і зараз-жа сьлёзку,
Ясную сьлёзку на вочка пашле.
Хоча, ня хоча дый скажа: — Але.

Гэтак і з паннай Амільляй было.
Нешта ад сэрца к грудзём падыйшло,
Потым у горле клубком перасела,
Быццам-бы выскачыць сэрца хацела;
З вочак сьлязінка зьвілася нясьмела,
Сьледам другія сьпяшаюць ісьці . . .
— Люблю, — кажа панна: — люблю . . .
адпусьці ! . . .
Скочыў, падскочыў гусар малады
Так, як-бы чорт ад сьвятое вады.
Рады, сьмяецца і ручкі цалуе,
Пусьціць, абдыме, ізноў прымілуе,
Ну, не раўнуючы, мора хвалюе!
Навет агоўтацца ёй не дае,
Рупіць зьбірацца, капотку ўзьдзяе.

Гасіць лаеўку, вядзець на парог,
Клямку шукае . . . Ды Бог засьцярог:
Панна зірнула каханку у вочы, —
Так, як вугольле, гараць сярод ночы . . .
Верыць — баіцца, ня верыць — ня хоча.
— Хто тут? — пытае. Ён цягне, маўчыць . . .
Панна ў трывозе тады як скрычыць:

— Маці Прачыстая! Ў помач прыдзі!
Згінь ты, шатане, — мара, прападзі!
Зьгінь, прападзі ты нячыстая сіла! —
Правай рукою яго ахрысьціла.
Чуе: рука, што трымала, пусьціла.
Прывід той страшны прапаў ў цемнаце:
— Кінь варажбу ў вадвантовым пасьце!

Голас чужы зза дзьвярэй прагрымеў.
Панна . . . прачнула. Ліхтар обгарэў,
Мусіць даўно дагарэла лаеўка,
Смрод у сьвятліцы . . . балела галоўка.
Ціха празь сені прайшла пакаёўка:
Стары гадзіньнік паказвае пяць . . .
— Ах, як заспалася ! . . . Трэба-ж так спаць!

**(Далей будзе)**

# Напярэдадні Гадавога Зьезду БАЗА

(Заканчэньне з 3-яй бачыны)

— як пра сваю новую бацькаўшчыну. Бо дзеля гэтага-ж мы й на чужыну пайшлі, каб шукаць паняволенай Беларусі прыязных народаў і ўрадаў. Гэта вельмі добра, што Беларусы Амэрыкі актыўна ўліваюцца ў амэрыканскае культурнае й палітычнае жыцьцё. Але-ж ці таму, каб забыцца на Беларусь? Куды-ж нас завядзе такая сьцежка, на якой, у дні нашага найвялікшага нацыянальнага сьвята, мы будзем зваць сябе «Французамі, Аўстралійцамі, Ангельцамі й Аргентынцамі беларускага паходжаньня»? Ці не зашмат гэта для тых, што ўважаюць сябе за найчысьцейшых беларускіх патрыётаў?

Гэта адно. А другое: праведзеная на нью-ёркаўскім сакавіковым сьвяткаваньні рэзалюцыя не ў парадку ня тое што з нацыянальнага гледзішча, але й з гледзішча чыста фармальнага. Ня ўсе-ж сябры БАЗА — амэрыканскія грамадзяне!... Сярод тых Беларусаў, якім прапанавалася прыняцьцё рэзалюцыі, ці ня бальшыня якраз была не-Амэрыканцаў? Няспраўнасьць гэтага фармальнага боку, відаць, і спрычыніла тое, што рэзалюцыя на ўрачыстым сходзе была пададзеная толькі ў вангельскай мове. Патрэйцяе, — і гэта, бадай, асноўнае, — беларускі вызвольны рух ня можа трымацца на заходняй канцэпцыі нацыянальнасьці, паводля якое із зьменай пашпарту аўтаматычна мяняецца нацыянальнасьць. Гэткае канцэпцыі ніколі ня можа трымацца народ, бацькаўшчына якога ўсьцяж кроіцца й перакройваецца дзярлівымі суседзямі. Уводзячы гэткае разуменьне нацыянальнасьці, мы бязвыхадна асуджаем Беларусаў Лацьвіі на латыскасьць, Летувы — на летувіскасьць, Польшчы — на польскасьць...

Палітычныя й тактычныя разыходжаньні, як і палітычныя ды тактычныя памылкі — рэч найбольш нармальная ў дасьпелым грамадзтве. Але пры гэткіх разыходжаньнях трэба мець адчуваньне, дзе канчаюцца разыходжаньні, а пачынаецца, хай сабе й нясьведамая, агульная нацыянальная шкода. Вартасьць грамадзкага кіраўніка павінна абазначацца ня толькі ягонай энэргіяй, але й цьвярозасьцяй ягонага палітычнага розуму.

Над усім гэтым варта задумацца надыходзячаму кангрэсу БАЗА.

**Рэдакцыя «Бацькаўшчыны»**

### ЯШЧЭ Ў СПРАВЕ НАШАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА НАЗОВУ

У сувязі зь лістом М. Волаціча п. н. «Балючая справа» («Бацькаўшчына» № 9) хачу паведаміць, а тутэйшым прыпомніць, што пару год падрад на ладжаных БАЗА-ай акадэміях 25 Сакавіка ў Нью Ёрку інтэлігентнейшыя прадстаўнікі амэрыканскага грамадзтва (прафэсары ўнівэрсытэтаў) завуць нас **Беларусьянс.** На гэты факт я адразу-ж зьвярнуў увагу прысутных суродзічаў і сяброў БАЗА. На жаль ніхто з нашых ня выцягнуў з гэтага факту нейкіх высnaваў. Наадварот, да галасоў чужых, якія завуць нас **Белорашанс, Байлорашанс, Бaелорашанс** і **Ўайтрашанс,** далучаецца і голас нашага прадстаўніка БАЗА, які заве сябе і нас **Беларошанс.**

**Ч. Ханяўка**

**ХРОНІКА БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ НА ЧУЖЫНЕ — ГЭТА ПАКАЗЬНІК НАШАЕ ГРАМАДЗКАЕ ЖЫЦЬЦЯЗДОЛЬНАСЬЦІ Й ДАКУМЭНТАВАНЬНЕ НАШАЕ ПРАЦЫ. ТАМУ НЕ ПАВІННА БЫЦЬ АНІВОДНАЕ ГРАМАДЗКАЕ ПАДЗЕІ, ЯКАЯ-Б НЯ БЫЛА АДЦЕМЛЕНА Ў БЕЛАРУСКАЙ ПРЭСЕ. ПІШЭЦЕ Ў «БАЦЬКАЎШЧЫНУ»!**

# Зь беларускага жыцьця

## Каралева балю ЗБМА

Оля Мельяновіч, дачка спадарства Ганны й Пятра Мельяновічаў, была выбраная Каралеваю Балю, ладжаным ньюёрскім Аддзелам Згуртаваньня Беларускае Моладзі Амэрыкі з нагоды праваслаўнага Новага 1961 Году (14-га студзеня).

Сяброўка Оля Мельяновіч скончыла гімназію імя Вашынгтона Ірвінга ў Мангатане. Цяпер яна працуе як студэнтка-сястра ў шпіталі.

Оля Мельяновіч была й ёсьць актыўнаю сяброўкаю ЗБМА.



ОЛЯ Мельяновіч
Каралева Балю ЗБМА

## У Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва

4-га сакавіка на чароднай зборцы Інстытуту д-р В. Тумаш прачытаў рэфэрат «Жыцьцё й навуковая спадчына Яўхіма Карскага». Дакладчык сабраў шмат біяграфічнага матар'ялу з раскіданых зацемак і артыкулаў апублікаваных раней ды значна дапоўніў жыцьцяпіс Карскага новымі, дасюль неапублікаванымі дадзенымі, сабранымі ад людзеў ведаўшых акадэміка Карскага. Прыняўшы пад увагу, што да сяньня, апрача кароткага артыкулу Ляпунова, аб жыцьці Я. Карскага напісана вельмі мала, а аб апошніх гадох ягоных і нічога няма, праца доктара Тумаша ёсьць вельмі патрэбная й каштоўная — гэта найпаўнейшая біяграфія Карскага.

У другой частцы рэфэрату др. Тумаш дэталёва разгледзеў навуковую спадчыну Карскага ў такім разрэзе: працы аб беларускай мове, беларускай літаратуры, беларускай палеаграфіі, этнаграфіі й фальклёру ды працы агульна славянскага зьместу. Я. Карскі (1861-1931) напісаў каля 800 большых і меншых навуковых працаў, артыкулаў ды зацемкаў. Бальшыня ягоных працаў на беларускую тэматыку. У працах Я. Карскі прытрымліваўся прынцыпу — сабраныя факты ніколі ня згубяць значаньня, а тэарытычная распрацоўка будзе заўсёды базавацца на фактычным матар'яле. Таму працы Карскага асабліва каштоўныя аб'ёмам сабранага фактычнага матар'ялу, у першую чаргу ў галіне беларускае мовы, і да сяньня гэтыя матар'ялы ня згубілі значаньня. Некаторыя працы Карскага, як прыкладам, зь беларускае палеаграфіі зьяўляюцца адзінымі ў нашай навуцы.

Асабліва дэталёва дакладчык разабраў манумэнтальную працу Карскага «Белоруссы» (нядаўна перавыдадзеную АН БССР). Карскі заплянаваў «Белоруссы» выдаць большай колькасьцю тамоў, пасьля трэйцяга тому ён плянаваў укладаньне слоўніка беларускае мовы, якіб ахопліваў каля паўмільёну словаў. Плян і інструкцыі да ўкладаньня такога слоўніка Карскі пасьпеў надрукаваць, але зрэалізаваць цалкам свой плян Я. Карскі ўжо ня змог. Незрэалізаваным застаецца гэты праект і да сяньня: бальшавіцкая Акадэмія БССР нічога саліднага ў галіне беларускае мовы ня робіць, перавыдае бязь ніякіх дапаўненьняў ранейшыя, дабальшавіцкія працы, а аб укладаньні слоўніка беларускае мовы й не абмаўляецца.

Вялікую ўвагу дакладчык зьвярнуў на бібліяграфію працаў Карскага — паказаў бібліяграфічныя недакладнасьці, памылкі ды ў меру мажлівасьці спраставаў іх.

Пасьля рэфэрату адбылася дыскусія ды некаторыя з прысутных падзяліліся ўспамінамі аб акадэміку Карскім. Сп. Я. Гладкі прыпомніў аб удзеле Я. Карскага на Ўсебеларускім Кангрэсе ў 1917 годзе, ягоныя дыскусыі з А. Смолічам і інш. удзельнікамі Кангрэсу. Гэн. Ф. Кушаль — слухаў лекцыі Карскага ў Вільні й Менску і падзяліўся з аўдыторыяй сваім тагачасным уражаньні аб Карскім. Праф. А. Адамовіч шмат расказаў аб жыцьці й дзейнасьці акадэміка Карскага ў 20-х гадох на фоне тагачаснага палітычнага жыцьця ў Менску ды паказаў прысутным пасьветчаньне выдадзенае яму Карскім пасьля экзаміну зь беларускае мовы й літаратуры ў 1923 годзе ў Менску.

Рэфэрат доктара Тумаша — гэта выдатна апрацаваная манаграфія аб заснавальніку сучаснае беларускае моваведы — акадэміку, прафэсару, доктару Яўхіму Карскім.

Гэты рэфэрат зьяўляецца толькі першай часткай. Другая частка — «Палітычныя пагляды Я. Карскага» будзе прачытаная д-р Тумашам неўзабаве на зборцы ВІНіМ'у.

**А. Б. В.**

### ВЫСТУПЛЕНЬНЕ БЕЛАРУСКАЕ МОЛАДЗІ Ў КЛІЎЛЕНДЗЕ

19-га сакавіка сёлета гурток школьнае моладзі пад кіраўніцтвам Мані Лук'янчык выступаў зь беларускімі народнымі танцамі на базары, які ладзіла арганізацыя жанчынаў у Кліўлендзе. Маладыя танцоры, як заўсёды, вельмі ўдала выступілі й зацікавілі прысутных. Акардыяністка Оля Дубаневіч выканала на акардыёне некалькі беларускіх мэлёдыяў.

# Абарваныя «Пялёсткі»

У біяграфічным даведніку «Пісьменьнікі Савецкай Беларусі», выдадзеным у 1959 годзе ў Менску, прыгадваецца і Валеры Маракоў. Фатаздымак паэты і некалькі радкоў аб ім. Вось і ўсё. У кнізе гаворыцца, што Валеры Маракоў нарадзіўся 14-га сакавіка 1909 году ў вёсцы Акалонія, Менскай вобласьці, у сям'і работніка. Ён скончыў сямігодку, працаваў мулярам, далей вучыўся ў менскім пэдтэхнікуме, пасьля ў пэдінстытуце імя Горкага, і некалькі год быў настаўнікам у Бабруйску. Пасьля такой куртатай біяграфіі ідзе пералік выдадзеных зборнікаў ягоных вершаў. І нарэшце — сухая кароткая нэкраінфармацыя «Памёр В. Маракоў 7-га мая 1940 году».

З такога даведніка нельга пазнаць вобраз паэты, даведацца аб ягоным жыцьці, творчасьці, трагічным лёсе.

Я гляджу на партрэт Валерыя ... Прыгадваю першы год знаёмства зь ім.. Беларускі пэдагагічны тэхнікум імя Ўсевалада Ігнатоўскага. У гэтым тэхнікуме часта наладжваліся літаратурныя вечары маладнякоўцаў. Паэты-студэнты чыталі свае вершы. Іх было нямала: Трус, Глебка, Дарожны, Лужанін, Казлоўскі, Бандарына і іншыя. Прыходзілі і госьці: Александровіч, Пушча, Дудар, Туміловіч, Бобрык. Яны таксама чыталі вершы.

Аднойчы выступіў і Валеры Маракоў. На сцэну залі падняўся 16-цігадовы юнак. На вуснак лёгкая ўсьмешка. Шэра-блакітныя вочы задуменна пазіралі кудысьці ў далячыню.

— Дык вось ён які, гэты Валеры Маракоў, — падумаў я. — Ён часта друкуецца. Піша цудоўна.

І я зь цікавасьцяй пільна глядзеў на паэту. Ён чытаў верш. Быццам ірвучы з сэрца кажнае слова, дэклямаваў горача, з асаблівым захапленьнем. Словы былі цёплыя, прачулыя, душапраймальныя. Яны выклікалі гучны выбух воплескаў усёй аўдыторыі.

Усхваляваны Маракоў зьлёгку пакланіўся і падаўся да выйсьця. Ля дзьвярэй незнаёмая студэнтка сказала «дзякуй» і сунула яму ў рукі вяргіню.

Невядома, ці спадзяваўся ён на такі посьпех. Ён быў вельмі ўзрушаны, камечыў падараваную кветку і тут-жа, спахапіўшыся, пяшчотна гладзіў ейныя пялёсткі. Можа, ў гэтую радасную хвіліну і запала ў яго іскра паэтычнага натхненьня да лірычнага твору «Мая паэма? Можа нявыпадкова і першы зборнік вершаў, які ён неўзабаве выдаў, меў назоў «Пялёсткі»? Можа ён шмат перадумаў і перажыў у той час.

Маракова акружыў натоўп. Яго віталі з посьпехам. Віншавалі й сябры, і я, і студэнты. Запрашалі заходзіць часьцей.

У наступным, 1926 годзе Валеры Маракоў стаўся студэнтам пэдтэхнікуму. Жыў ён ня ў Менску, а за горадам, на станцыі Козырава. І штодня ў тэхнікум хадзіў пехатой.

Калі я быў у яго ў гасьцёх — мне спадабалася.

— Найлепшыя ўмовы для паэзіі, — думаў я. Прасторна й вольна, як на хутары. Вакол зеляніна, кветкі. Сьвежае паветра й палявая цішыня.

Памятаю, мы сядзелі ля вакна. Валеры чытаў мне свае новыя вершы. Чытаў з памяці. Ён любіў слова. Здавалася, гарэў, жыў ім, і як паветрам, дыхаў паэзіяй. Голас быў шчыры й лагодна-інтымны. Валеры верыў у сілу свайго лірычнага голасу. Аднойчы ў тэхнікуме на выбарчым сходзе Маракоў з гонарам сказаў: «Вы кажаце, я ня маю права галасаваць. Непаўналетні. Што-ж! Я маю лепшы голас — голас друку.

Гэта былі ня пустыя словы. Малады паэта рос. 1926 год — «Пялёсткі». У 1927 годзе выйшаў зборнік «На залатым пакосе». А далей ... Далей — пачатак трагічнага лёсу. Зьмяніліся абставіны. На паэтаў-лірыкаў глядзелі ўжо зь недаверам, варожа. У іхнай творчасьці крытыкі тыпу Бэндэ бачылі буржуазную ідэялёгію.

Пачаўся наступ і на Маракова. Ён мусіў, як у той час казалі, «перабудавацца, перайсьці «на сацыялістычныя рэйкі». Цяжка было паэту Маракову ламаць сваю сыстэму вобразаў, ідэяў, думак. Ён бачыў і горка вычуваў, што яго пазбаўляюць сапраўднага голасу — голасу паэты.

У 1930-ым годзе выйшаў з друку ягоны зборнік вершаў «Вяршыні жаданьняў». Гэта ўжо, фактычна, была лебядзіная песьня.

Пазьней, праз тры гады, зьявілася ў сьвет кніга «Права на зброю». У ёй паэта загаварыў чужым, прыдушаным голасам. Хвальшывы ваяўнічы дух забіў спакутванага паэту-лірыка. Зацкаваны партыйнымі крытыкамі, Валеры Маракоў змоўк.

А яшчэ калісьці ён пісаў:

«Хай не адчыняць мне ў прыгожым доме [дзьверы.
Дармо! І ў полі можна начаваць!»

Не давялося яму начаваць у полі і на залатым пакосе сьпяваць свае песьні. Маракову адчынілі дзьверы. Але ня ў прыгожым доме! Бязьвіннага паэту арыштавалі й кінулі ў падвалы ГПУ. І так ён загінуў.

**К. Рамановіч**

# Сёе-тое

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

Ці гэта ўжо такая цяжкая рэч выдаць добра памастацку ахвормлены абраз і пусьціць на продаж у нашых сьвятынях? І ці не пара нашай верхавіне з БАПЦ зьвярнуць большую ўвагу на пашырэньне ведаў аб Патронцы Беларусі?

*

Побач із шматлікімі збальшавізаванымі назовамі мясцовасьцяў у Беларусі асталіся й такія цымусы, як Навагрудак і Крулеўшчызна. Бязумоўна, гэта адно прыклады, ёсьць іх шмат больш. Гэта ёсьць струпы мінулай польскай акупацыі заходняй часткі нашай бацькаўшчыны. Мусіць яны пакінутыя маскоўскімі акупантамі не бяз прычыны й зьяўляюцца для іх шмат выгаднейшымі чымся беларускія Наваградак і Каралеўшчына.

*

Узбагачэньне гэтак званай соцрэалістычнай музычнай культуры нядаўна атрымала новы ўкол і то прост-напраст непраўдападобны. Яшчэ ўчора кажны цьвяроза думаючы й ведаючы бальшавіцкія партыйныя крывулі чалавек божачыся грудзі мог-бы сабе пабіць і галаву гатоў-бы быў даць адсеч, закладаючыся, што гэтак ня можа стацца. Але сталася.

Ня так даўно ведамы бальшавіцкі музычны дырыгент Лявон Уцёсаў напісаў у часапісе «Савецкая Культура» артыкул, у якім выказаўся любіцелем... джазу й выявіў думку, што «бацькаўшчына пралетарскай рэвалюцыі» безь яго абыйсьціся ня можа. Тым больш, што джаз, паводля Ўцёсава, нарадзіўся ў ... Адэсе. Уцёсаў пайшоў далей. Ён зганіў бальшавіцкае афіцыяльнае табу на джаз і цьвердзіў, што яно перашкаджае адукацыі музычнага смаку маладога камуністычнага пакаленьня.

Мамачкі мае! Адкуль-жа й чаму гэта рыбіна на рынку апынулася? Вядома, што «родная партыя» глядзела на джаз, як на прадукт «гніючага капіталізму», як на зброю для дэмаралізацыі маральна чысьценькай савецкай моладзі. А тут на табе! Відаць, што «роднай партыі», якая гадамі змагалася з джазавымі кружэлкамі на чорным рынку ды з уплывам джазу на савецкую моладзь наагул, давялося скапітуляваць. Бо хіба-ж льга падумаць, каб Уцёсаў пісаў бязь ведама партыі?

І вось адкрыецца цяпер новы цыкль працаў казённых музычных гісторыкаў аб адэскім паходжаньні джазу. Можа ня так ужо цяжка будзе давесьці, што камарынскі гэта ня быў камарынскі, але якраз той самы першапачатковы джаз. Але як джаз з Адэсы дастаўся на Бэйсые вуліцу ў Нью Орлінс? Мо матросы завезьлі? Яшчэ раз: Мамачкі мае!

**Міхась Козыр**

# Зь дзейнасьці Беларускага Жаночага Згуртаваньня ў Кліўлендзе

Арганізацыя Беларускага Жаночага Згуртаваньня паўстала й распачала сваю дзейнасьць амаль аднача сна з зарганізаваньнем Беларускага рэлігійнага жыцьця й іншых бел. арганізацыяў у гэтым асяродку. Кіраўніком Жаночага Згуртаваньня ад самага пачатку існаваньня зьяўляецца сп. Клаўдзія Чэрнік. Шлях дзейнасьці арганізацыі падобны да новабудаванае дарогі, якая, калі пракладаецца па роўнай мясцовасьці, не патрабуе вялікіх высілкаў, а калі праводзіцца праз лясы, рэкі і горы, дык вымагае ад будаўнікоў больш тэхнічнае падрыхтоўкі, дбайласьці, высілку і веды. Падобны і разнаякі шлях дзейнасьці можна заўважыць і ў арганізацыйнай працы Жаночага Згуртаваньня, дзе ейнаму кіраўніцтву прыходзіцца напатыкацца на розныя перашкоды, аднак мужнасьць, няўтомнасьць і адказнасьць у выкананьні абавязку сябрамі арганізацыі ў працы даюць пазытыўныя вынікі.

У царкоўным жыцьці праца Згуртаваньня відавочная пры ўпрыгожваньні й парадкаваньні царквы, пры зборцы грошаў на закуп неабходных царкоўных рэчаў, пры замоўленьні іконаў, шыцьцю аблачэньня, а ў грамадзкім пры ладжаньні банкетаў, прыняцьцяў і пачастункаў ды ўсюды можна заўважыць дбайлівасьць беларускае жанчыны.

Годна рэпразантуюць сябе жанчыны й у галіне культурна-асьветнай, чытаючы рэфэраты на розныя тэмы. Гэтак 25 лютага быў прачытаны сп. Лідаю Каляда добра апрацаваны рэфэрат на тэму «Нідзе няма спакойнага прытулку», а 18 сакавіка сп. Юрка Каляда на запросіны Жан. Згуртаваньня высьвятліў зробленыя ім здымкі з высьвячэньня Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Кліўлендзе. Усе абразы фільму каляровыя й памастацку выкананыя, а таму вельмі цікавыя і гістарычна каштоўныя.

Ладжаньне штосыботы вечарам беларускіх патраваў гэтак сама належыць да працы й ініцыятывы Жаночага Згуртаваньня, з чаго найбольш задаволены адзінокія асобы, жывучыя ў гэтым асяродку, бо не патрабуюць самі займацца прыгатаваньнем ежы.

Пішучы пра дасягненьні Жан. Згуртаваньня ды бяручы пад увагу мінімальную магчымасьць для выкананьня, трэба адцеміць, што некаторыя жанчыны не дацэньваюць аднак свайго ўкладу ў беларускае рэлігійнае й грамадзкае жыцьцё, а таму часта не бяруць удзелу ў працы. Аднак будзем мець надзею, што тая духовая сіла і вера, якую праявіла беларуская жанчына ў беларускім вызвольным змаганьні, будзе і ў будучыне зьнічам для жанчын у гэтым бел. асяродку.

**К. Кіслы**


НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.
**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia,** 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Maroz,** 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
**Mr. M. Nikan,** 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
**Mr. W. Akavity,** 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.
**БРАЗЫЛІЯ:**
**Mr. C. Cimafiejčyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.
**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mrs. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
**Mr. B. Danilovich,** 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 814 Brayton Ave., Cleveland 13, Ohio.
**КАНАДА:**
**Mr. K. Akula,** 57 Riverdale Ave. Toronto 6, Ont.
**Mr. J. Chrenouski,** 2285 Sauve St. East, Montreal 12, Que.
**ФРАНЦЫЯ:**
**Union des Travailleurs Biélorussiens en France, 26,** rue de Montholon, Paris 9.
**Mr. W. Kasztelan,** 33 rue Kleber, Mouvaux (Nord).






**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**

**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**